Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 20 (71). Вільня, Нядзеля 27 Лютага 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаваньга залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Канфіската „Сялянскае Нівы“.

**Па загаду Камісара Ураду на м. Вільню канфіскаваны № 19 (70) „Сялянскае Нівы„ ад 26 лютага с. г. за перадавіцу „Сучасныя падзеі.**

## Вызваленьне Кітая.

Каля кітайскага места Шанхаю, апошнімі часамі, разыгрываецца трагэдыя, якая некалькі гадоў таму назад, у гэтым самым Шанхаі распачалася.

З іскры паўстае полымя—кажа прыказка—і праўда, гэтак і сталася. Але-ж іскра можа запаліць тольки тое, што ўжо надта прыдаецца да гарэньня, дык вось знача,—калі ад шанхайскае іскры ўзняўся кітайскі пажар, дык гэта ўжо яскрава сьведчыць, што—палкага матэрыялу было ў Кітаі аж замнога! Складаўся ён доўгім працягам часу, дык і быў надта прыдатным для зыркага паленьня.

Афіцыяльна Кітай лічыўся нібы сувэрэнным—незалежным, фактычна-ж панавалі над ім шмат хто з блізкіх і далёкіх суседзяў; істнавала і цяпер яшчэ незагубленая экстэрыторыяльнасьць. Сутнасьць гэтага ў тым, што кітайскі народ лічучыся гаспадаром сваей зямелькі і сваей дзяржаўнасьці, якую складаюць нешта вышэй за 400 мільёнаў жыхарства, ня мог кіраваць сваею дзяржавай гэтак, як яму жадалася, бо іншыя народы, карыстаючыся часоваю кволасьцю кітайскага гіганта, на яго жывым арганізме скакалі гэтакі танец, які толькі ім самым падабаўся. Напрыклад было гэтак, што, калі які чужынец заб'е Кітайца, дык гэтакага забойцу кітайскі суд ня мог пакараць. Гэтакага забойцу мог судзіць суд, толькі тэй дзяржавы, грамадзянінам якое ён зьяўляўся, дык ведама, што родны суд, хоць і за вялікі праступак перад кітайскім народам, або зусім апраўдваў свайго праступніка або накладаў зусім маленькую кару. Кітайскай буржуазіі гэтакі парадак падабаўся, бо замежныя капіталістыя памагалі трымаць у паслухмяннасьці кітайскую працоўную масу, якую супольна вызысківалі.

І гэтак было добра да таго часу, пакуль неўсьвядомленая працоўная маса драмала. Але-ж як толькі сьвядомасьць пранікла ў шырокія гушчы народу, дык трэба было толькі іскры, каб заняўся пажар, які пэўна спаліць усю несправядлівасьць. І вось, іскраю гэтаю стаўся гэтакі вось выпадак: адзін майстра японец на японскай фабрыцы ў Шанхаі, забіў Кітайца-работніка, а японскі суд, якому падлягаў забойца, апраўдаў гэтага забойцу. Чарка кітайскай цярплівасьці палілася за берагі, цярплівасьць лопнула і вось, цераз гэта самае паднялася тагды завіруха, якая скача аж дагэтуль, якая мае сваей мэтай і заданьнем або выгнаць усіх чужынцаў з Кітаю, або падпарадкаваць іх кітайскім законам.

Панаваўшым у Кітаі чужынцам да-зарэзу гэта не падабаецца, дык яны, каб ратавацца выкарысталі розных рэнэгатаў і нацкаваўшы адных на адных заварылі гэтакую кашу, што цяпер і самі ўжо віяк не перажвуць. Гістарычнаю арэнаю становіцца Шанхай, дзеля таго, што там—найболей чужацкага жыхарства. Зацікаўленыя дзяржавы робяць усё магчымае, каб абараніць Шанхай ад кітайскай рэволюцыйнай арміі і ўтрымаць стары лад у Кітаі але-ж працоўная маса, не зважаючы на ніякія ахвяры, пабагатырску вядзе змаганьне за сваё права, долю і фактычную незалежнасьць.

Нядаўна ў Шанхаі здраднікі народу, розныя генэралы, жорстка распраўляліся з непаслушнымі работнікамі. Яны масамі загублялі работнікаў, а галовы выстаўлялі на брамы, але-ж і гэтая крутая мера нічога не памагае. Кітайскі працоўны народ збудзіўшыся горда ідзе да новага жыцьця і ён пераможа! Кітайская працоўная маса паставіла шырокае пытаньне: быць ці ня быць? Стойка і вытрывала трымаецца яго, дык, як два ды два—чатыры будзе—быць!

*Скарга.*

## Прамова пасла Рагулі

**ў Сойме 30.I с. г. пры дыскусіі над бюджэтам мін. асьветы.**

Высокая Палата! Мы ня бралі голасу ў агульнай дыскусыі над бюджэтам ня дзеля таго, што ня маем нічога сказаць, наадварот маем вельмі шмат чаго сказаць, але выключна дзеля таго, што маем у сваім распараджэньні на ўвесь бюджэт, на ўсе міністэрствы толькі 48 мінут. Мы пастанавілі выкарыстаць гэтыя мінуты на тое, каб выступіць пры абгаворах бюджэту паасобных міністэрстваў. Агульная сума, якая прэлімінавана (прызначана) на міністэрства веравызнаньня і асьветы даходзіць да 325.666.827 зл. Сума досьць вялікая і значны процант гэтай сумы, гэта ёсьць крывавы пот беларускага народу, значны процант гэтай сумы сьцягваецца з беларускага селяніна, сьцягваны часта дарогай продажы яго падушак, а мо' нават яго кашулі. І што-ж дастаём, што беларускі народ дастае з гэтых сьцягнутых падаткаў? Калі заглянём у бюджэт міністэрства асьветы, дык можам проста, ясна і цьвёрда сказаць, што не атрымлівае беларускі народ ані воднага граша на школы і вельмі невялічкую суму на рэлігійныя справы. Конституцыя, а таксама вэрсальскі трактат гварантуюць нам, як аднэй з нацыянальных меншасьцяў у Польшчы, права да сваей уласнай культуры, шанаваньня (узгадоўваньня) сваей мовы і сваей нацыянальнасьці.

Аднак усе натугі Беларусаў у гэтым кірунку разьбіваюцца аб польскую рэакцыю (Голас: На тым боку ёсьць рэакцыя). На жаль мушу сьцьвердзіць, што і на тым баку, бо мы мелі рожныя ўрады, былі з гэтага боку і з таго, і ўсё роўна, адныя варты другіх.

І вось, каб затрымаць, каб здушыць зусім беларускі культурны і асьветавы рух, дык усякага культуральнага беларускага дзеяча падводзіцца пад камунізм і прасьледуецца яго, як камуністага. Падведзена пад гэта нават беларускіх паслоў, аставіўшы толькі палавіну сучаснага беларускага прадстаўніцтва на волі, думаю што не на доўгі час, а другую палавіну пасаджана ў вастрог і з бюджэту міністэрства справядлівасьці даецца ім хлеб і вада — з беларускай працы. Дык барацьба ідзе не з камунізмам, толькі заўзятая барацьба з беларускім народам, з яго нацыянальнымі імкненьнямі. На гэтую барацьбу мусім адказаць безадступнай барацьбой, нічога не баючыся.

Калі заглянём у беларускае школьніцтва, дык там знайдзём пустку. Мой прадмоўца гаварыў аб нямецкіх школах, аб школах украінскіх. Ня ведаю, ці даваў ён дакладныя даныя, ці не дакладныя, а ўсё-ж такі гаварыў, што там нешта ёсьць, але ня мог нічога сказаць аб беларускіх школах, бо нічога няма. Ані воднай урадавай школы беларускай ня маем. Маем толькі адну прыватную школу ў Рудаўцы, Слонімскага павету; што датычыцца ўтраквістычных школаў, дык скажу пану, Пане Міністар, што і ўтраквістычных школ на Беларусі няма, там ёсьць нейкая карыкатура ўтраквізму (двуязычнасьці). У праграме лекцыяў ёсьць толькі 2 гадзіны на тыдзень беларускай мовы і пры гэтым гэную беларускую мову выкладае Паляк, які нічога не разумее пабеларуску. Дык тыя 2 гадзіны дзеці так праводзяць, як хто хоча. Кожны робіць, што хоча. Паўтараю яшчэ раз, што ніякіх выкладаў беларускай мовы няма. Маем чатыры гімназіі і вось, прашу Высокую Палату, ані воднага граша дагэтуль гэныя гімназіі ад ураду не дасталі.

Пан Міністар Бартэль, калі трэба было яму беларускіх галасоў пры выбарах прэзыдэнта, запрасіў мяне і пасла Ярэміча да сябе, прыгэтым хваліўся сваім радыкалізмам і сказаў: кажыце паны, чаго хочаце, а ўсякія магчымасьці таго, што паном запраўды належыць, тое паном будзе дана.

Мы скарысталі з тых прапазыцыяў, падалі бюджэт мінімальны на 1 048.000 зл. на школьніцтва, на культуру, на беларускія выдаўніцтвы, але Пан Бартэль, як прайшлі выбары і гэта яму не ўдалося, каб узяць нас на вуду, бо мы ўжо ня верым словам толькі дзейнасьці, чакаем на дзейнасьць, — зусім маўчыць. А беларускае вучыцельства, якое працуе ахвярна тры месяцы: травень, чэрвень і ліпень у прыватных гімназыях? Ані адзін з іх не атрымаў ані воднага граша, дзеля таго што наша сялянства зьяўляецца пагалелым і калі плаціць за вучэньне дзяцей то зусім мала. Дык вучыцельства галадуе, але паміма гэтага вельмі ахвярнае для свайго народу. Дык ці-ж ня трэба вам змагацца? Усімі спосабамі мусім змагацца і пакуль урад ня зьменіць сваіх адносінаў да Беларусаў, датуль мы ня зьменім свайго становішча, згінем, але будзем змагацца.

Ня лепей стаіць справа з рэлігіяй як праваслаўнай так і каталіцкай. Вось, Пане Міністар, былі рэакцыйныя ўрады, насталі санацыйныя ўрады, але для нас усё адно. Ёсьць пуга, пуга і пуга. Адбіраньне царквы, адбіраньне царкоўных дамоў, адбіраньне царкоўных лясоў, ніш-

## Да ведама падпішчыкау.

Вельмі часта здараюцца выпадкі, што падпішчыкі „Сялянская Нівы“ не атрымліваюць газэты. Газэта нашая выходіць акуратна у сераду і ў суботу, на кажной пошце у Польшчы павінна быць найпазьней за 2 дні. Калі ў працягу двух дзён пасьля выхаду газеты не атрымаеце газэты, то адразу ідзіце на пошту і давядайцеся чаму не дасталі „Сял. Нівы“. Калі паштар будзе казаць, што на Вашае імя ня прыходзе газэта, то папрасіце яго каб паказаў карту прэнумэраты „Сялянскае Нівы“; у гэтай карце пабачыце ці ёсьць Ваша прозьвішча, ці няма. Калі ёсьць Вашае прозьвішча, то павінны атрымліваць газэту, а калі няма дык напішыце аб гэтым у Рэдакцыю і Адміністр. „С. Нівы“.

**Прысылайце грошы на падпіску.**

чэньне царквы. Каб ня быць галаслоўным, мушу падаць гэткі факт. Царква у Новым Дворы была збурана. І вось гэтая царква стаіць да гэтай пары неадбудаванай, ня гледзячы на тое, што Соймавая Камісія на чале з пасолм Тугутам пастанавіла, каб гэтая царква была папраўлена на дзяржаўны кошт. (П. кс. Ількоў: хто збурыў?) Палякі збурылі, каталікі. (П. Казлоўскі: камісія ня мае права нічога пастанаўляць). Далей адбіраюць старую праваслаўную царкву ў Маламажэйках, якая яшчэ ад XV сталецці была праваслаўнай. Гэта гістарычная праваслаўная сьвятыня. Далей маем Сталовічы, мястэчка Баранавіцкага павету. Пане Міністар, касьцёл ёсьць там вельмі вялікі (пышны), праўда ёсьць праваслаўная царква і ізноў скажу, праўда, гэтая царква пераробленa з касьцёла, але прашу Паноў, калі Паны зьўляецеся грамадзянамі, калі Паны зьўляецеся людзьмі і калі не патрэбен будынак для рэлігійных мэтаў, дык што-ж Вы будзеце з ім рабіць? Будзеце ксяндза туды садзіць, каб меў адзін 100 прыхажан і другі 100 і затым будыніна гэтая будзе стаяць пустой. Дык ці-ж ня можа праваслаўная царква з гэтага карыстаць? (перарываньне).

Далей, у Сеняўцы, Нясьвіскага павету царква мае лес. Той лес царкоўная ўлада хацела выкарыстаць на рэмонт праваслаўнай царквы, аднак урадавыя дзейнікі адбіраюць гэны лес, адбіраюць для дзяржавы і гэтым не даюць праваслаўнай люднасьці магчымасьці карыстацца з таго, што да яе бяз сумліву гістарычна належыць (П. Мантэрыс: Польскаму духавенству таксама забрана).

Констытуцыя гварантуець усялякія правы, але Польскі Урад езуіцкім манерам, як раней так і цяпер ня дае грамадзянства праваслаўным ксяндзам. Дзеля таго, каб з іх мець прылады дзеля паляпізацыі, дзеля тыканы (пасьмехі) над праваслаўнай рэлігіяй, бо праваслаўны ксёндз, ня маючы польскага грамадзянства мусіць кланяцца кожнаму лепшаму шляхціцу і нават пастарунковаму, бо той пастарунковы зараз данясе, што гэты ксёндз ёсьць палітычна нядобраверны і яго выкінуць і не дадуць яму магчымасьці спраўляць свае абавязкі.

Што датычыць бюджэту на рэлігійныя справы, дык маем для вызнаўцаў веры праваслаўнай прадбачаную ў бюджэце суму 1.695.980 зл. Дзеля таго, што народ праваслаўны адносна да каталіцкага можна выразіць лічбамі 1 да 6, то праваслаўныя—маюць права на $3^1/_2$ мільёны, дык нам належыць найменш цыфра (сума) — 3.337.000 зл. 60 гр. Аб гэтым гавора ня толькі пас. Рагуля, але аб гэтым гаворыць і гэтага просіць праваслаўны Мітрапаліт, з той толькі рожніцай, што я ня іду на ўгоду, а Мітрапаліт ідзе на ўгоду, але нічога з яе не скарыстае, нічога ня будзе мець. Мала гэтага, ад таго, што даецца, яшчэ частка адбіраецца назад. Урад нешта забірае сабе. З гэтых сумаў, якія былі прэлімінаваны ў апошнім годзе рожнымі выкрутамі, недалі скарыстаць. Урад іх затрымаў. Перад Эўропай гаворыцца і пішыцца, што даецца 1.600.000 на праваслаўную рэлігію, але пасьля можа дастанецца 400,000 ці 500.000 толькі, аднак аб гэтым будуць маўчаць, або скажуць толькі, што даецца, але што з гэтага? Яны ня могуць скарыстаць.

Далей гвалтам протэгуецца (падтрымліваецца) вунія і гэта такім манерам, што калі, скажым, царкоўная ўлада пераносе праваслаўнага ксяндза ў якую небудзь парахвію, дзе быў здраднік, рэнэгат ксёндз праваслаўны, які перайшоў на вунію, дык сьвецкія ўлады не зацьвярджаюць новага праваслаўнага ксяндза і духоўная ўлада мусіць яго пераносіць з паваротам, але там яго таксама не зацьвярджаюць і ён астаецца паміж небам і зямлёй (Голас: Камінскім). Вось гэтакі выпадак быў з ксяндзом Карабчыком і Казлоўскім. Можа ёсьць і нейкі іншы.

Што датычыцца каталіцкага касьцёла, дык каталіцкая рэлігія зьяўляецца прывілегіяванай рэлігіяй у Польшчы, але гэта толькі для Палякаў. Для Беларуса католіка рэлігія зьяўяецца прыладай дэнацыяналізацыі яго, прыладай угнятаньня яго (п. Васынчык: праўда, кс Гадлеўскі). Вось конкордат налажыў на біскупаў паліцэйскія функцыі і гэтыя функцыі іх эксцэленцыі выконваюць вельмі старанна, вельмі ахвотна і вельмі заўзята. Гэтак прыкладам віленскі арцыбіскуп Яблжыкоўскі, прыймаючы беларускую дэлегацыю, якая прасіла яго аб тым, каб узяў на ўвагу інтэрэсы беларускага народу, прыняў яе ароганцкім манерам, казаў, што тут не карчма, пагражаў жандармамі, пагражаў пракурорам і ўсімчыста, чым можна было пагражаць. Вось, за расейскай пары, тое чарносоценскае праваслаўнае духавенства не даходзіла да гэткіх межаў! Барані Божа! Ніколі праваслаўны біскуп не пагражаў ні воднаму чалавеку, нават адшчапенцу, які лічыўся толькі фармальна за праваслаўнага, што забяруць яго жандармы, што будзе жаліцца пракурору і г. д.

Каталіцкія белар. ксяндзы пераносяцца з каталіцкіх беларускіх парахвіяў у польскія парахвіі, як гэта было з ксяндзом Рэшацем і іншымі. Далей кс. Шутовіча, з Браслаўскага павету, зусім увольнена з парахвіі за культурна-асьветавую беларускую працу, якраз за тое, што залажыў беларускі народны дом, пабудаваў яго бяз помачы Дзяржавы і другіх дзейнікаў, а толькі за беларускія сродкі. І вось яго выгналі на вікарага; затое арцыбіскуп карыстаецца з рэнэгатаў, беларускіх ксяндзоў, з іх помачы, як прыкладам, з такога рэнэгата кс. Бобіча. За яговай помачай ня толькі вядзецца польская палітыка, але нават сіляцца адабраць праваслаўную царкву ў Ёдах, каб перарабіць яе на касьцёл, хоць мясцовая суменныя каталіцкія ксяндзы як беларускія, так і польскія з пагардай адносяцца да яго паступку ў гэтай справе.

Дзеля таго, што ня маю часу, дык мушу сказаць у кацпы... (п. Мантэрыс: Дзе пан пойдзе?) Пойду, дзе хачу, але да пана не пайду. Пан пойдзе да мяне хлеба прасіць, бо пан мае бульбу, а я маю хлеб. (Голас: А ксёндз Гадлеўскі?) Ксёндз Гадлеўскі асуджаны на два гады.

Дык вось, Паны, канчаючы сваю прамову, скажу, што ёсьць яшчэ порах у порахавых складах і Беларусы дапнуць сваей мэты, здабудуць незалежнасьць Беларусі (п. Казлоўскі: Пойдзе пан у турму таксама).

Галасуем процiў бюджэту.

* * *

Не пяі ты, ліхі вецер — бура  
Сумным тонам за вакном;  
Мо' ты, хочыш маё сэрца лячыць  
Доўгім, сумным вечным сном.  
Не засну я сном магільным—вечным,  
Кроў у жылах усьцяж кіпіць!  
Хоць жыцьцё маё адныя мукі,  
Але жыць — хачу я жыць!  
Мо' на гібель мне сьпяваеш? Чуеш?  
Сваю тайну мне адкры...  
Што сказаці хочыш, што вяшчуеш?  
Прашу, праўду гавары!

*М. Пецюкевіч.*

# Памяці д-ра Яна Басановіча.

21 г. лютага перад паўднём у віленскай катэдры, кс. Арцыбіскуп Яблжыкоўскі адправіў жалобнае набажэнства. З амбоны папольску і палітоўску гаварыў кс. Краўяліс, характарызуючы с. п. Басановіча ў літоўскім жыцьцю на культурна-асьветнай ніве. Па набажэнстве працэсія рушыла на магільнік Роса. На чале працэсьі нясьлі вянкі вучні і вучаніцы літоўскіх школаў. За трупою ішла радня, дэлегацыя з Коўна, літоўскае грамадзянства Вільні і інш.

На магільніку Роса, пасьля адсьпяваньня набажэнства выступалі прамоўцы: д-р Альсэйка, рэктар ковенскага унівэрсытэту М. Біржышка, прэзыдэнт м. Коўна І. Вілейшыс, сэн. В. В. Крыжаноўскі, пас. кс. А. Станкевіч пабеларуску, Рыйзін пажыдоўску, студ. ков. унівэрсытэту Чыбурыс, б. міністар асьветы д-р Юкантас, нарэшце студэнт У. С. Б. Р. Мацкевіч. Усе адзначалі, кто народ літоўскі страціў чалавека вялікай вагі і патрыёта, заслужанага ў справе адраджэньня Літоўскага Народу.

Вечарам адбылася ўрачыстая акадэмія, якую распачаў д-р Альсэйка; пасьля быў выбраны прэзыдыум у складзе: рэктара М. Біржышкі, праф. З. Жэмайтіса, праф. А. Янулайтіса, д-ра Іокантэса, кс. праф. Тумаса і бурмістра Коуна І. Вілейшыса.

Сваею прамоваю кс. праф. Тумас адзначыў ролю с. п. Басановіча ў адраджэнскім руху, уважаючы яго асобу як сымболь ідэі незалежнасьці Літоўскага Народу.

Па заканчэньні прамоваў у якіх усе прамоўцы адзначалі вялікія заслугі нябошчыка перад літоўскім народам і наагул чалавецтвам, д-р Альсэйка адчытаў атрыманыя тэлеграмы ад Літвіноў усіх старонак. Характэрна, што нават і абшарніцкая супалка ковенскіх Палякаў таксама са спагадай адчула сьмерць Басановіча.

Пасьля афіцыяльнай часткі гэтай хаўтурнай урачыстасьці распачалася канцэртная яго частка, якая складалася з выступленьня артыстаў ковенскай опэры п. Судэйкі і п. Грыгайцісовай, а таксама з літоўскага хору пад кіраўніцтвам гр. А. Крутуліса.

Па заканчэньні ўрачыстасьці прысутныя на салі адпялі літоўскі народны гімн.

# Сьляпая тэндэнцыя.

„Dzieńnik Wileński", як запраўдны прафэсыянал, робіць надта лёгка сур'ёзныя вывады. Пахаваць нас яму нічога не каштуе: ну проста, чыркнуў пяром нейкі Каўнацкі ў 41 чорным па беламу і годзі — няма Беларусаў!... Чыркнуў яшчэ раз, дык ізноў даволі, каб скласьці сказ што мы ня хочам культуры беларускае, а надта жадаем культуры польскае.

Я не хачу рабіць закідаў польскай культуры. але мушу адзначыў, што гэтакія дапушчэньні „Dzieńnika" ня маюць ні перад сабою, ні за сабою, ні пад сабою, ні над сабою, ні справа і ні злева на'т аднэй маленькай ёты праўды. Калі-б прытарнаваць гэтакія вывады, якія падае „Dzieńnik", да каталіцкае часткі Беларусаў, дык гэта можна было-б апіраць на супольнасьці з Палякамі каталіцкай рэлігіі, але калі пад адну плошчу падводзіць і Беларусаў праваслаўных, дык гэта выклікае проста вясёлую усьмешку.

Гаварыць аб гэты Беларускаму Народу ня трэба, а калі гавару, дык толькі дзеля таго, каб вясёла і бадзёрна пасьмяяцца і сказаць, што мы Беларусы ёсьць, бо каб не было нас, дык паны з „Dzieńnika" не гаварылі-б аб нас, бо гаварыць аб тым каго, ці чаго няма, нельга; а калі гаворачы аб нас яны не прызнаюць нас, дык гэта—добра ведамая эндэцкая тэндэнцыя: пускаць пыл у вочы на супроць ветру, які зацярушыць гэтым пылам вочы таму самаму хто яго пусьціў. Бо ці-ж можна тлумачыць іначай вось гэтакія „краскі" з эндэцкае „оранжарэі" — „ўжо ў папярэднім артыкуле мы сьцьвярдзілі, што і ў запраўднасьці істнуе беларускі рух, але-ж да пачатку істнаваньня „беларускага народу" яму ёсьць яшчэ, надта далёкія". Дык ці-ж не зацярушаны вочы „Dzieńnika" пылам, пушчаным ім самым, калі баючыся за „утрату паветаў, з большасьцю праваслаўнага жыхарства" хваліць Бога за няістнаваньне Беларускага Народу? Дый хто, калі не народ Беларускі, творыць беларускі рух? І хто, калі не Беларусы, гэтыя вось праваслаўныя і каталікі?

Наагул з усяго „бальшавіцкага ўзору „Dzieńnika" вынікае адно, што так ці іначай, беларускі рух твораны Беларускім Народам трывожыць эндэкаў — разумеецца, што рабіць гэта ня можа тое, што ня істнуе! Значыць ня гледзячы на ўсялякія эндэцкія дапушчэньні Беларускі Народ — істнуе!...

Тое што ёсьць скулаю на эндэцкім целе і костках, дык у гэтым ня можа быць сумліву, у гэтым усе перакананы, дык і іменна ў гэтым і солідарны з „Dzieńnikiem" і згодны з гэтакім сказам, што ад гэтага будзе эндэцыі „капут". Ясна, што польская культура ад гэтага толькі выіграе, бо вызваліцца тагды з таго эндэцкага мяшка, у якім цяпер знаходзіцца, вызваліцца ад таго сьляпога шавінізму, якім цяпер ахопляна.

*Скарга.*

# З жыцьця пад Польшчай.

## Паседжаньне ў Сойме.

Найбліжэйшае паседжаньне Сойму будзе ў дню 1 сакавіка ў ваўторак.

## Арышты ў Сельцах.

Віленскае „Słowo" 24.II. піша: У Сельцах паліцэйская ўлада арыштавала быццам акружны камуністычны камітэт, складаючыся з 60 асобаў пераважна Жыдоў. У памешканьні акружнага і павятовага камітэту быццам знайдзена вялікая колькасьць камуністычных адозваў, а таксама распараджэньні і інструкцыі з Масквы.

## Злоўляны фальшыўшчыкі 20 залатовак у Пазнані.

Пазнанская паліцыя выкрыла на прадмесьці Гурчын шайку фальшыўшчыкаў 20-ці залатовак, якіх арыштавала ў памешканьні Аўшаркава ў часе фабрыкацыі фальшывых грошай. Канфіскавана запас паперы, вялікую колькасьць фальсыфікатаў яшчэ ня выканчаных, друкарню, літаграфію, клішэ і г. д. Чарырох сяброў шайкі пасаджана ў вастрог.

## 13-ці-гадовая маці.

У Лодзі нейкая 13-ці гадовая Гэновэфа, вучаніца пачаткавае школы, нарадзіла дзіця. Як маладая маці, таксама і дзіця чуюцца добра, за тое малады бацька, 16-ёх гадовы хлапец, арыштаваны.

**Дык кожны, хто ўмее чытаць, спяшайся выпісаць сваю газэту „Сялянскую Ніву".**

# НАВІНЫ.

**— Беларуская лекцыя.** У нядзелю 27 лютага а 7 гадз у вечары ў кватэры Інстытуту (Завальная 6—5) гр. І. Зянюк прачытае лекцыю на тэму: Зямельныя адносіны на Беларусі і аграрная палітыка канца XIX сталецьця. Уваход бясплатны.

**— Агульны сход Гуртка** Б. І. Г. і К. ў **Радашковічах.** У нядзелю 13.II. 27 г. у гадз. 7,30 веч. адбыўся агульны сход Гуртка Інстытуту з наступным парадкам дня: 1) справаздача старога ўраду; 2) выбары новага ўраду; 3) бягучыя справы.

**— Пажар у Радашковічах.** У нядзелю 13.II. 27 г. у 6 гадз. веч. выбухнуў пажар у Радашкавічах пры Віленскай вуліцы. Згарэў аграмадны ток (гумно) Нямцэвіча.

**— Суд над рэдактарам „Беларускай Справы“.** 21 г. лютага рэдактар газ. „Беларускай Справы“ Сымон Макулік за зьмяшчэньне ў № 22 верша пад наз. „Амністыя“ асуджаны на 1 год вастрогу і за зьмяшчэньне ў № 26, артыкулу пад наз. „Палітычныя вязьні г. Шлёнску да ўсіх работнікаў“—на $2^{1}/_{2}$ гады крэпасьці. Гэтыя кары ўважаюцца за злучаныя.

Асуджаны рэдактар „Бел. Справы“ Сым. Макулік дзеля таго, што ня мог заплаціць аж 10.000 зл. каўцыі, як піша „Dz. Wil.“, каб быць на свабодзе і апэляваць, адпраўлены ізноў у вастрог, дзе ён находзіўся ад пачатку судовае справы.

Падаючы аб гэтым мусім зацеміць, што ў прэсавых справах у Польшчы гэта ёсьць першы, гэтакі жорсткі прысуд, якога дагэтуль яшчэ ня было. І на вялікі жаль, трэба-ж было, каб запачаткавалася гэта іменна на беларускім рэдактары!

**— Выезд літоўскай дэлегацыі.** 23 г. м. выехала з Вільні ў Літву дэлегацыя, якая прыяжджала на хаўтуры с. п. д-ра Я. Басановіча.

**— Прызывы.** У палове траўня будуць пазваны на вайсковую службу навабранцы, што радзіліся ў 1905 і 1904 годзе, якім вайсковая служба была адложана, або якія мелі карты „надлічбовыя“. Адначасна будзе пазвана 50% навабранцаў, што радзіліся ў 1906 г.

**— Спадчына 1 мілiён даляраў.** 16.X. 1925 г. ў Чыкага (ў Амэрыцы) памёр Якуб Стывоскі, які пакінуў па сабе, як спадчыну, адзін міліён даляраў.

Атрымаць гэтую спадчыну мае права жонка і трое дзяцей, якія няведама дзе пражываюць.

Калі хто ведае дзе яны жывуць цяпер, дык няхай падасьць іх адрэс у міністэрства заграмічных справаў, праўна-рэвіндыкацыйны аддзел у Варшаве, вул. Фрэдры № 3.

**— Рэгістрацыя Палякаў у Радавай Беларусі.** Згодна з весткамі з Менска, радавая ўлада пачала рэгістрацыю ўсіх Палякаў, якія пражываюць блізка граніцы. Ходзяць чуткі, быццам рэгістрацыя мае сувязь з намерам рад. улады, усіх Палякаў адправіць у глыб Расеі.

* * *

Хмары цёмныя нагналі
На душу маю —
Гора. Путамі скавалі
Душу сумную.
Гадам — вужам акруцілі
Спуталі на век,
Хмарай цёмнаю спавілі;
Дзе на гэта лек?
Можа вецяр лёгкакрылы
Спагадае мне?
Можа лес стары ды шумны
Сум мой разьвядзе?
Мо' маланка быстралётна
Сілаю сваей
Скрыша путы мімалётна
На душы маей?
Я-б свабодны запяяў-бы
Вольнымі грудзьмі,
Сьвет магутны праслаўляў-бы
З вольнымі людзьмі.

*М. П.*

# Што дзеецца ў сьвеце?

## Польска-эстонскі трактат.

19 лютага пасол Харват і міністар заграмічных спраў Ацкель падпісалі польска-эстонскі гандлёвы трактат, абапёрты на падставе найвялікшай льготнасьці.

## Нямецка-літоўскі гандлёвы дагавор.

Газэта „Preussische Kreutzeitung“ атрымала весткі з Коўна, шло літоўскі пасол у Нямеччыну, вярнуўшыся з Бэрліну ў Коўна, вёў абгаворы з сваім урадам у справе стварэньня на шырэйшых, чымся дагэтуль было асновах гандлёвага трактату паміж Нямеччынай і Літвой. Літоўскае міністэрства заграмічных справаў мелася прыгатаваць адпаведны праект трактату.

## Гэнэральная забастоўка ў Шанхаі.

У Шанхаі ўзнялася гэнэральная забастоўка, як пратэст насупроць высадкі ангельскага войска і як сымпатыя да Кантончыкаў. Работнікі дамагаюцца, каб ангельскае войска пакінула Шанхай.

Усе паштовыя ўрадоўцы, трамвайныя, аўтабусавыя працаўнікі і працаўнікі францускіх канцэсіяў пакінулі працу. Лічба забастоўшчыкаў даходзіць да 40 тысячаў.

## Тэрор і растрэлы ў Шанхаі.

У забастовачным руху наступіла пэўнае заспакаеньне (?) як сьледзтва шматлічбовых экзэкуцыяў, дакананых над забастоўшчыкамі на загаду Сун-Шуан-Фанга. Растрэляна некалькі дзесяткаў правадыроў. Над кітайскаю часткаю места пануе тэрор. Галовы растрэляных павывешвалі на брамах места. Гэтак кажуць весткі з Шанхаю; з Лёндана таксама падаюць, што да агульнае забастоўкі, якая ахапляе 100.000 чалавек, далучыліся працаўнікі омнібусаў і наагул усіх сродкаў камунікацыі. Ваенны губэрнатар Шанхаю выдаў распараджэньне, у якім пагражае караю сьмерці павадыром забастоўкі. Ня гледзячы на гэтыя экзэкуцыі і тэрор, войска Ву-Пэй-Фу разаружылі манджурскі батальён войска Чанг-Цзо-Ліна; затрымалі цягнік з амуніцыяй. Сындыкат работнікаў у 1-Танг маніцца абвясьціць агульную забастоўку, кіруючы яе проці Англіі.

## Вайна ў Кітаі.

Ваенны губэрнатар Шантунгу ген. Чанг-Цун-Чанг заняў Нанкін і ўзяў уладу над гэтым местам перагаварыўшы папярэдня з генэралам Сун-Чан-Фангам. Войска генэрала Фэнг-Твэна дзержаць дазор над чугункай напоўдня ад Нанкіну, што дасьць магчымасьць паўночной арміі сілай у 32.000 людзей, якая скора прыбудзе да Нанкіну, пераняcьціся хутка ў Шанхай і прыступіць да абароны гэтага места.

## Масарык едзе ў Парыж.

Як паведамляе „Народная Палітыка“, чэхаславацкі прэзыдэнт Масарык 10 буд. сакавіка выяжджае на поўдзен Францыі, дзе прабудзе 12 дзён і адведае некалькі мест, маючых гістарычнае значэньне. Пасьля паедзе ў Эгіпт.

## Інтэрвэнцыя (пасярэдніцтва) Амэрыкі ў кітайскіх справах.

Марскія амэрыканскія ўлады атрымалі вестку, што амэрыканскі транспартоўны карабель „Chaumont“, з 120 маракамі на пакладзе, выплыў з Каліфорніі і падаўся ў Шанхай.

## Арышт 11 ксяндзоў у Радавай Расеі і рэвізіі ў касьцёлах.

Як пішуць польскія газэты, у Петраградзе радавая ўлада арыштавала і пасадзіла ў турму гэтакіх ксяндзоў, абвінавачаных у контр-рэволюцыі: А. Васілеўскага проб. касьц. сьв. Кацярыны, Я. Тройга пр. касьц. сьв. Станіслава, М. Шаўдзініса проб. Катэдры, Д. Іванова сэкр. курыі дыецэзыяльнай і П. Хоміча проб. касьц. сьв. Казіміра.

Гэтаксама арыштавана 12 сёстраў Францішканак і некалькі кандыдатаў на духоўны стан.

За гэты час радавая ўлада выслала на Салавецкія выспы з Жытомерскай дыецэзіі: кс. кс. Сакалоўскага, Федаровіча, Славінскага, Крыўчука, Белагаловага і Ільгіна з Магілёва. Тамжа знаходзіцца асуджаны ў сваім часе і памілаваны кс. Зелінскі.

Усяго на Салавецкіх выспах ёсьць 6000 палітычных вязьняў.

У часе арыштаў адбылася рэвізія ў парахвіяльных касьцёлах, а нават і ў францускай капліцы ў Царскім Сяле.

## Бюджэт Радавай Расеі.

Згодна з данным радавага тэл. агенства ТАСС бюджэт Радавай Расеі г. г. прадстаўляецца гэтак:

Даходы аблічаны на 4.960.000.000 рублёў (3.850.000.000 руб. у лет. г.), г. зн. цяпер павялічаны на 28 проц.

Выдаткі аблічаны на 4.856.000.000 рублёў, якія перавышаюць на адзін міліярд леташнія выдаткі.

Звышка даходаў над выдаткамі тэорэтычна аблічана на 104 міліёны рублёў.

Выдаткі на народную гаспадарку маюць выносіць 62 проц. усіх выдаткаў, ці 2.725.000.000 рублёў. На мясцовыя бюджэты асыгнавана 480 міліёнаў руб.

Выдаткі на культурна-сацыяльныя патрэбы выносяць 923 міл. рус.

Выдаткі на абарону дзяржавы — 692 міл. руб. (604 ў лет. годзе).

Абасноўваючы вайсковы бюджэт, Бруханаў сказаў, што звышка выдаткаў на войска ня ідзе на павялічэньне лічбова арміі, а выключна на матэр'яльнае і культурнае палепшаньне войска. Выдаткі на войска становяць 14 проц. усяго бюджэту тагды, калі суседнія (мова пэўне была аб Польшчы) выносяць 33 процэнты бюджэту.

Безпасярэднія падаткі складаюць 768 міл., пасярэднія 1.368.000, мыта—173. Даходы ад прамысловасьці, гандлю і банкаў—276. Унутраньні бюджэт выносіў 1 студзеня 1927 году 756 міл. (440 ў лет. г.).

## Пагоршаньне дыпляматычных адносінаў паміж Англіяй і Саветамі.

З Лёндану пішуць, што 23 г. м. савецкаму паўнамоцніку даручана нота ангельскага ўраду, якая сьцьвярджае, што адносіны ангельска-савецкія не перастаюць быць яўна незадавальняючымі. Прыпамінаець яна таксама, што папярэднія пратэсты ангельскага ўраду проціў зневажаньня Вялікай Брытаніі і прарочаньняў аб сусьветнай рэвалюцыі не былі задаволены. Закіды, што нібы ангельскі ўрад меўся належыць да тых згаворшчыкаў, якія імкнуліся да скасаваньня савецкага ладу, не згаджаюцца з праўдай. Далей нота адзначаець, што пацьверджаньне Рыкава і Бухарына, нібы проціангельскія выступленьня не падтрыліваюцца Саветамі і астаюцца яўна недаказанымі. Нота падчыркавае, што ў ангельскім грамадзянскім судзе ёсьць граніцы, якія было-б для Саветаў небяспечным пераходзіць. Калі Саветы і далей будуць вясьці тую самую палітыку, дык наступе сарваньне ангельска-расейскага гандлёвага дагавору, які ўжо цяпер астаецца відавочна нарушаным, а нават можа дайсьці да сарваньня звычайных дыплёматычных зносінаў. У канцы ўрад адзначае сваю надзею, што гэта нота будзе прынята Саветамі пад увагу і далейшых жальбаў ня будзе.

## Дымісія эстонскага габінэту.

З Таліна паведамляюць, што 23 г. м. эстонскі габінэт пайшоў у дымісію. Прычынай да гэтай дымісіі было галасаваньне ў парлямэнце, які 64 галасамі проці 27 прызнаў прапазыцыю сцьвярджаючую, што распараджэньне міністра ў справе самаўрадавых выбараў зьяўляюцца супярэчнымі з выбарнай практыкай.

## Трасеньне зямлі і выбухі вулканаў.

Як наказваюць з Парыжа, з усіх старон сьвету даходзяць весткі аб трасеньнях зямлі і нязвычайных бурах.

Гэтак у паўднёвай Францыі ў мясцовасьці Сэн у ночы з 17 г. лютага чутна было цэлы рад моцных трасеньняў зямлі. У некалькіх мясцох рухнулі будынкі.

Ізноў з Рыму прыходзяць весткі, што сэйсмографічная станцыя ў Фэзніі запісала вялікае трасеньне зямлі, якое трывала каля 4-х гадзінаў у адлегласьці 8800 кілямэтраў. Асяродак гэтага трасеньня ляжыць, пэўна, на канцы паўночнае Азіі.

Таксама даносяць з Кангару, што даўнейшы вулкан Сорын на пабярэжжы Чорнага мора раптоўна ізноў выбухнуў, заліваючы лаваю і засыпаючы попелам некалькі мясцовасьцей. Дамоў шмат зьнішчана, многа асобаў забіта.

Нарэшце даносяць з Амэрыкі, што магутны паветраны віхор учыніў вялікія шкоды ў штатах Люзіяна, Георгія і Міссісіпі. 30 асобаў забіта, каля 300 ранена. Паветраны віхор, які надышоў са штату Тэксасу зьнішчыў на вялікім абшары нафтовыя мясцовасьці і плянтацыі. Вялікія спусташэньні гэтак сама зазначана і ў Канрасе.

# Браты Беларусы!

Зварочваемся з брацкім клічам, ахвяруйце кніжак у рожных мовах у нашу бібліятэчку-чытальню. Кніжка гэта ёсьць духовым пажывам для нас, кніжка—зярно культуры, родная кніжка—аружжа на цемру, кніжка—сьмерць злыбядзе! Дык адгукніцеся Браточкі на наш кліч!

Кніжкі можна пакідаць у Вільні — Завальная 7, кнігарня „Пагоня“ можна перасылаць па такім адрасе: м. Радашковічы, бібліатэка-чытальня Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

**Урад Гурка Інст. у Радашковічах.**

# Да нас пішуць.

### Культурная праца.

(Радашковічы, Маладэчанскага пав.).

У нас ёсьць Гурток Інстытуту, які вельмі інтэсыўна працуе. Між іншым гэты Гурток узяў пад свае кіраўніцтва бібліатэку-чытальню, якую залажыў Аддзел у канцы мінулага году, і так здолеў паставіць на ногі гэту бібліатэчку, што проста на дзіва. Толькі вось бяда, што кніжак ня шмат, а газэт і журналаў небеларускіх бадай зусім няма. А ўсяму гэтаму віна тая, што няма грошы на выпісываньне. Толькі адна ўкраінская газэта спачувае нашай беднаце і прходзіць да нас, прыносячы весткі аб сваім Народзе, г. зн. газэта „Украінская Грамада". Аднак нягледзячы на гэта наша бібліатэка-чытальня многіх Радашкоўцаў загіпнатызавала і прывабіла да сябе і прываблівае, пры гэтым шмат асьведаміла і асьведамлівае. Зайдзі ў нашу бібліатэчку ў гадзінах ад 5—7 веч., то заўсёды ўбачым поўную людзей: моладзі і старых чытаючых газэты, пазычаючых кніжкі. То нядзіва, што моладзь так цікавіцца, але старыкі і старухі, якія нядаўна лічылі сябе Палякамі, або Расейцамі, а цяпер адкрыта і сьмела кажуць, што: „Мы Беларусы!"

Ня можна сказаць, што ўсе Радашкоўцы прыхінуліся да нас; ёсьць яшчэ такіх, якія яшчэ думаюць „як індыкі"... куды пахінуцца, а ёсьць таксама і паўдуркаў, якія сьмяюцца з сьвядомых беларусаў і нават стараюцца рабіць рожнага роду прыкрасьці і авантуры. Аднак мы на іх не зважаем і будзем працаваць над пашырэньнем роднага слова, культуры, над усьведамленьнем нашых шэрых масаў.

Наш Гурток Інстытуту мае ўжо каля 20-ёх сяброў, хлопцаў і дзяўчат, хоць іх ня шмат, аднак сьвядомыя, працавітыя і здольныя да працы. Нашы сябры і сябрўкі ўсе, што даадного, шчыра працуюць і ахвоча. Калі-ж далей з гэтакай інтэсывнасьцю будуць працаваць, то бязумоўна вялікую карысьць прынясуць, як для сябе, так і для свайго Сярмяжнага Народу.

Прыдзем на нашу вечарынку, дык проста міла паглядзець. Казаў-бы, там кожная асоба інтэлігентная, або адукаваная вельмі. Тут проста сказаў-бы Божая сямейка. Кожны, адзін другога, называе сябрам, шануюць адзін другога. Перадусім вядуць дыскусіі на паважныя тэмы, ладзяць тарыскія гульні, дэклямуюць вершы, пяюць песьні, а таксама і танцуюць, перадусім сваю нацыянальную „Лявоніху".

Вось гэткія прыкладныя вечарынкі нашы і пачалі прыцягіваць да нас Радашкоўскую моладзь.

### Спагаднікі культуры.

(Давучын, Пружанскага пав.).

Няведама з якіх крыніц, наша мясцовая паліцыя, даведаўшыся аб арганізацыі ў нашай вёсцы Гуртка Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры, калі яшчэ фактычна Гурток ня быў залегалізаваны, а ішла толькі гутарка аб арганізацыі яго, каб тэрарызаваць пачын,—паліцыя зрабіла вобыск у гр. Гр. Куроўскага (старш. Гуртка). Вобыскі рабіў камандант Дабучынскага пастар. Бэрнадзкі з паліцыянтам Нядзьведзкім. Ведама ад гр. Куроўскага зажадалі выдачы аружжа і нелегальнай літэратуры. Але пры рэвізіі нічога не знайшлі, апрача некалькі нумараў „Сялянскае Нівы", статуту з рэгулямінам Б. І. Г. і К. і 3 лісты ад знаёмых.

Пры сьпісаньні пратаколу дапрос быў скіраваны на арганізацыю і істнаваньне Грамады, да якое гр. Куроўскі не належыць. 25.I. на гэтай самай падставе быў зроблены вобыск ў гр. В. Саўчыца 16 л. хлопца, які фактычна лічыцца скарбнікам Гуртка Б. І. Г. і К. Пры вобысках таксама нічога не знайдзена. Пры сьпісаньні пратаколу яго абзывалі арганізатарам бандыцкай камуністычнай партыі, аб істнаваньні якой ён зусім ня ведае. П. Бернадзкі пагражаў яму, што ён яшчэ малады да арпанізацыяў, ня можа належыць, але той адказаў, што: „Нас да гэтага часу дзяржалі ў цемры, а цяпер хочам культуры і асьветы, разам як старыя, так і маладыя".

Ня гледзячы на ўсе перашкоды з боку адміністрацыі мы яшчэ ахватней і дружней бяромся за культурную працу, на карысьць свайго народу. *Віч.*

### Белавеская пушча.

Белавеская пушча — гэта запаведнік лясоў Беларусі. Паміж іншым, да вайны славілася зубром, якога не знайсьці было ўва ўсёй Эўропе. Цяпер зубр прапаў; прападае і сама пушча ад чалавека з пілой і сякерай ў руках. На гэтым няшчасьці здабываюць сабе шчасьце розныя фірмы са сваімі бязлікімі прадстаўнікамі, ды купцы; валяцца тысячагадовыя дубы, зьніштажаюцца толькі што паднаўшыя жыці маленькія дрэўкі.

У сучаснасьці пушча мае выгляд, — якбы поле пасьля бойкі. Ад нападкаў чалавека на безбаронны лес засталіся толькі пні, якія напамінаюць нам магільныя памятнікі, сьведчачы аб тым, што ня гэтак даўно тут быў адвечны лес з аленем, зубром і іншай зьвярынай.

Хоць нешта і насаджваецца на высячаных мейсцах, але-ж ці можа чалавек зьнішчыўшы, зрабіць ізноў гэтак як было створана прыродаю?

З болькаю ў сэрцы паглядае на гэтую пагубную пасеку селянін, у якога пасьля вайны не асталося хаты, якое і да гэтуль няма. Дый як-жа інача? — Усё вывозіцца, а нам астаюцца, толькі пні як памятнікі аб былай вялікасьці, якая, ад цяперашняй гаспадаркі над пушчаю, пашла намарна. *Сакурак.*

### Новая мова.

(Лыскава, Ваўкавыскі пав.).

Вось, чытачы, наперад дагадаецеся, што я хачу гэтым сказаць?!...

Дзеля таго, што адгадаць гэта здаецца будзе цяжкавата, бо можна падумаць розна, я пасьпяшаюся, ня турбуючы Вас; паясьніць, што значыць гэтая — новая мова!

Беластоцкі ваявода гэтымі днямі, у сувязі з апошнімі арыштамі выдаў адозву да народу, заклікаючы да супакою; але справа ня ў гэтым, а ў тым што гэтая адозва пісана дваякім шрыфтам: першы шрыфт гэта польскі і мова польская, а другі шрыфт — кірыліца, але яе мова, дык зусім новая. Да таго новая і гэтак спрытна камбінаваная, што нельга зразумець — ці яна расейская, ці польская, ці беларуская, ці проста віякая. Але-ж гэта мелася быць беларускай мовай.

Хоць пісаць аб „добрых зьявах" нам заборонена, хоць канфіскуюць за гэта нашу газэту, хоць гавораць да нас на нейкай не істнуючай мове, але-ж факт на яве — загаварылі па новаму. Гэта сьведчыць што ўжо, хоць яшчэ блага, але-ж лічаць нас за сілу. *Пігань.*

### Бяззямельле.

(Несьвіжскі пав.).

Тое бяззямельле, якое адчуваем мы, сяляне, прымушае сур'езна над гэтым задумацца. Што-ж будзе далей? Як мы будзем жыць? Калі цяпер няма на чым жыць, дык на чым-жа будуць жыць нашыя дзеці, унукі, якая іх сустрэне доля, будучыня? Можна сказаць, што калі зробіцца нешта асабліва ў нашым сялянскім жыцьці, што карэнным чынам, зьменіць сучасныя варункі жыцьця, дык іх будучына будзе, папраўдзе жудасная, страшная. Дзеля прыкладу, вазьму маленькі факцік. Пасьля выхаду з паншчыны вёска Б—чкі, Нясьвіскага пав., мела зямлі 224 дз. З гэтай лічбы ворнай зямлі было 88 дзес., непрыдатнай 92 і пожнеў 44 дз. Разьбіўшы гэта на адзінаццаць паўвалок будзем мець на кожную па 20 дз. 892 кв. саж. Дапусьцім, што кожны гаспадар быў жанаты, меў 3 дзяцей, трымаў 1 каня, 1 вала, 2 каровы, 2 сьвінь, 4 авечкі. Перамножыўжы гэта, будзем мець, што на 224 дз. жыло 55 душ, было 11 каней, 11 валоў, 22 каровы, 22 сьвіньні, 44 авечкі. Прайшло 65 з гакам год. На той-жа самай зямлі аказалася: замест 11 гаспадароў 68. Сям'я кожнага гаспадара, цяпер маець найменш 4 душ, агулам 273 душы. Каней 44, кароў 110, цёлак 66, авечак 77 і сьвіней 55. Адкінуць з 224 дз. 92 дз. непрыдатнай, занятай пад ямамі, кустамі, будзем мець, што толькі 132 дз. у запраўднасьці пракармліваюць 273 душы і 342 галавы рознай жывёліны.

Праўда, гэтыя лічбы дзе небудзь у іншым месцы невялічкія, як напр. Нямеччына, але ў нас пры нашай адсталасьці ў вядзеньні гаспадаркі і агульнай цемнаце, трэба прызнаць, за высокія. Фактычна разьдзяліўшы апошнюю дзесяціну зямлі на тры часткі, з каторай трэба ня толькі самаму пражыць з сям'ёю, пракарміць жывёліну, але і пабудавацца, няма дзіву, што чалавек зусім галее. Мы дык хоць яшчэ дзелім хоць на часткі сваю дзесяціну, а што-ж будуць дзяліць нашы дзеці? Каб нашы дзеці ня мерлі з галадухі ў той жудаснай, але недалёкай будучыне, нам трэба ні на мінуту ня спыняць сваей барацьбы за зямлю. Найлепш гэта весьці арганізаваным шляхам, пад сьцягам нашага Сялянскага Саюзу. *Бяззямельны.*

## СЯЛЯНЕ!

Аб усіх крыўдах, аб зьдзеках адміністрацыі і аб вашым жыцьці пішыце ў сваю газэту **„Сялянскую Ніву"**.

# НАШАЯ ПОШТА.

**Гр. Садоўскім:** Друкі паслалі Вам.

**М. Запольскаму:** Артыкул атрымалі. Добра было-б яго зьмясьціць у літэратурнай часопісі.

**Лірыку Сьлёзцы:** „Волата" атрымалі. Насылайце матэр'ялы на Завальную 6—5.

**Грышкевічу:** арт. „Б. Спіноза" атрымалі.

**С. Пяюну:** Вершы атрымалі.

**Стары Хрын:** Карэспандэнцыю дасталі, пастараемся зьмясьціць.

Крэсу А., Ляшковічу Ф., К. Бабако, Ал. Касяку, Н. Цару, Н. Мякоўскаму, Л. Аляксейчыку, С. Хмелю, П. Ёлоб, В. Казакевічу, Я. Філіановічу, К. Івашкевічу, Н. Нарэйко, М. Смаленскаму, Ф. Радзевічу, А. Астапкевічу—пробны нумар паслалі.

Кернодзе М., Ломшыку К., Лемяшонку М., Кузьніцкаму Ів. — газэту пасылаем.

**Дасталі ад:**

Грыдзюшко Антона 3 зл.

Забачэўскага Г., Юстына Болвана, Бандарэнкі Уладысл., Мілоша Івана, Куніцы Б., Салінскага А., Тодарчыка А. — па **2 зл.**

Канюха Аркадзя, Шумолінскага Б., Каролькіна А., Тодарчыка В., Курынкі А., Шчаснага А., Засьцекоўскага Б., Маліка А., Корвіна Б., Заельніка А. — па **1 зл.**

# БІРЖА.

Вільня, 24.II. 1927 г.

ВАЛЮТЫ:

| | |
|---|---|
| Даляры . . . . . . . . | 8.90—8.92 зл. |
| Рублі зал. (10 р.) . . . . | 47.25—47.35 „ |

ЗБОЖЖА, ЗЕМЛЯРОБ. І ІНШ. ПРАДУКТЫ:

Вільня, 22.II. 1927 г.

| | |
|---|---|
| Жыта за 100 кг. (6 пуд.) . . | 42.00—43.00 зл. |
| Авёс „ „ . . | 36.00—37.00 „ |
| Ячмень брав. „ . . | 35.00—37.00 „ |
| „ на кашу „ . . | 00.00—00.00 „ |
| Пшаніца „ . . | 50.00—51.00 „ |
| Сланіна тутэйшая І гат. 1 кг. . | 3.50—4.30 „ |
| Клустасьць свінная „ . . | 4.30—4.60 „ |
| Масла несал. за 1 кг. . . . . | 6.00—8.00 „ |
| „ салён. . . . . . . . . | 5.00—6.20 „ |
| Сьмятана за 1 літр . . . . . | 2.50—2.80 „ |
| Яйкі за 1 дзес. . . . . . . | 2.30—2.50 „ |
| Дровы сасн. за воз . . . . | 10.00—14.00 „ |
| „ „ „ . . . . . | 11.00—14.00 „ |



## СЯЛЯНЕ!

## Выпісывайце сваю газэту!

**„Сялянская Ніва"** шчыра і сьмела бароніць вашыя сялянскія інтарэсы, вашыя грамадзкія і чалавечыя правы, якія на кожным кроку нарушаюць то ўлады, то паны, то іншыя няпрошаныя госьці. Толькі чытаючы сваю газэту і асьведамляючыся аб тым, што робіцца ў нашых ворагаў, што дзеецца ў сьвеце, можам спадзявацца, што надойдзе той час, калі мы самі будзем гаспадарыць на роднай зямлі.

Дык не пашкадуй 1 зл. ў месяц і пашлі яго ў рэдакцыю (адміністрацыю), за тое атрымаеш два разы ў тыдзень сваю газэту. Адзін пробны нумар Рэдакцыя высылае дарма!

Калі хочаш атрымаць пробны нумар газэты то прысылай заяву такога зьместу:

У Адміністрацыю „Сялянскае Нівы"
ў Вільні, Завальная 6 кв. 5.

Ветліва прашу адміністрацыю „Сялянскае Нівы" высылаць пробны нумар Вашай газэты на такі адрэс:

Пошта . . . .
Вёска . . . .
Павет . . . .
(—) . . . . .
(подпісь).

Дня . . . . . . 192 . г.

Па атрыманьні такой заявы адміністрацыя вышлець газэту.

Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.